


Беларускі ПЭН Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусі

выпуск 24 (37)

22 чэрвеня 2021

*«У чарговы раз збярэм сябе ў купку, разгарнем плечы, уздымем галовы і зробім чарговы крок наперад. Бо кожны учынак і кожны крок – гэта крок у будычыню. У лепшую будучыню нашай краіны і кожнага з нас».*

*Аксана Колб, рэдактарка «Новага Часу»*



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**Валярына Кустава**, паэтка і журналістка, з’ехала з Беларусі ад пераследу – супраць яе распачалі дзве крымінальныя справы.





Уладзіслаў Карэцкі, Ігар Ярмолаў, Мікалай Сасеў
У калажы выкарастаныя фота Belsat

**Ігар Ярмолаў**, кіраўнік студыі Dance Cafe, а таксама **Мікалай Сасеў**, памочнік Ігара і трэнер па танцах, і **Уладзіслаў Карэцкі**, рэжысёр – усе трое былі валанторамі штаба Віктара Бабарыкі – асуджаныя да 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.





**Сяргей Верамяюк**, музыка, студэнт БНТУ, быў затрыманы 14 чэрвеня перад абаронай дыплома. Яму прысудзілі 15 сутак адміністратыўнага арышту.





У краязнаўцы **Кастуся Шыталя** адбыўся ператрус – канфіскавалі тэхніку, падазраюць у адміністраванні тэлеграм-канала, у якім быў змешчаны зневажальны допіс на адрас аднаго з супрацоўнікаў Докшыцкага РАУС.



Чальцоў арганізацыі **Саюз палякаў Беларусі** працягваюць выклікаць на допыты.



**Аліна Бірукова**, гомельская фотамастачка, была затрыманая 16 чэрвеня, па падазрэнні ва ўдзеле ў маршы 20 верасня 2020 года.
Падставай для крымінальнай справы стаў фотаздымак, на якім Аліна нават не прызнала сябе.





**Павел Гонца**, кіраўнік хора «**УНІЯ**», быў затрыманы 16 чэрвеня на сваім працоўным месцы ў Філармоніі.





**Валадара Цурпанава** два разы карал<u>і</u> карцарам у магілёўскай турме нумар 4 за просьбу, каб турэмшчыкі з ім гаварылі па-беларуску.





**Андрэю Аляксандраву**, журналісту, паэту, тэрмін пад вартай падоўжылі як найменей да 12 ліпеня.





**Аксана Зарэцкая**, трэнерка па этыкеце, сяброўка Каардынацыйнай Рады, была затрыманая 16 чэрвеня падчас прыватнага прагляду анлайнавай версіі спектакля «**Белы трус, Чырвоны трус**», у якім яна дэбютавала як акторка. Былі затрыманыя іншыя гледачы, якіх Аксана запрасіла ў чырвоны дворык у Мінску на прагляд, іх караюць 15 суткамі арышту.






**У Гродна <u>адмянілі</u> «Кінемо» – open air фестываль нямога кіно і сучаснай музыкі. Музей гісторыі рэлігіі адмовіўся прадаставіць пляцоўку фестывалю без тлумачэння прчычын.**

**У Брэсце <u>ліквідаваныя</u> культурніцкая ўстанова «Грунт будучыні» і культурніцкая прастора «Крылы халопа».**






**Наталля Акініна, салістка Нацыянальнага тэатра оперы і балета, <u>звольнілася</u> з тэатра.**
**Па яе словах, «на тое было вялікае жаданне кіраўніцтва тэатра».**

**Юры Стулаў, кандыдат навук, дацэнт, унікальны спецыяліст у вобласці афраамерыканскай літаратуры, звольнены з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Восенню 2020 года ён падтрымаў студэнтаў.**





**Маргарыце Собаль у канцы мая <u>не працягнулі</u> кантракт у якасці настаўніцы фізічнай культуры гімназіі-каледжа мастацтваў у Маладзечна. Маргарыта беларускамоўная і мае актыўную грамадзянскую пазіцыю.**

Фота: rh.by

# 2. СІМВОЛІКА



На оперную спявачку Маргарыту Ляўчук завялі крымінальную справу за «здзекі з дзяржаўнага сцяга Беларусі». За гэта ў Беларусі ёй могуць пагражаць папраўчыя працы тэрмінам да двух гадоў, арышт або да аднаго году абмежавання свабоды.

У беларускія бібліятэкі паступіў загад выняць кнігі Віктара Ляхара «Ваенныя героі Беларусі. Гісторыя. Сімвалы. Колеры» і «Ваенная сімволіка Беларусі. Штандары і мундзіры», бо ў іх утрымліваецца «анцідзяржаўная прапаганда».





Вольгу Верамеенка, гаспадыню крамы «Адметнасць», аштрафавалі на 2300 рублёў за цішоткі з выявай «Пагоні», званочак і банер.

Надалей людзей затрымліваюць і караюць за сімволіку, нават значак ці сцяг у лесе.

# 3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ

**Дачка Юліі Чарняўскай стварыла старонку ў Facebook, дзе ад імя Юліі, якая знаходзіцца пад хатнім арыштам, паведамляе, што адбываецца.**
***«Я никогда не думала, что Кафка – реальность. Я понимаю, что мне глубоко повезло по сравнению с теми, у кого аресты далеко не домашние, и в честности кого я не сомневаюсь. Я за них молюсь, – это то, что я могу делать».***





**Ігар Банцар – гарадзенскі актывіст і музыка – асуджаны на 1.6 гадоў «хіміі» за перформанс, мусіць накіравацца ў месца адбыцця пакарання ў Віцебск – папраўчую ўстанову адкрытага тыпу N9 ад 17 чэрвеня.**

**Анджэю Пачобуту, журналісту, зняволенаму па справе Саюзу палякаў Беларусі, праз Covid-19 стала значна горш: Анджэй адчувае сябе слаба, кашляе, губляе сілы; ў яго хворае сэрца, збіваецца рытм.**
**Пачобут цяпер знаходзіцца ў перапоўненай камеры, дзе сядзяць 13 чалавек. Там душна, не хапае паветра і ёсць вошы. Адміністрацыя СІЗА ў якасці выключэння дазволіла Пачобуту ляжаць на нарах 2 гадзіны ў дзень, увесь астатні час удзень ён мусіць або стаяць, або хадзіць.**





**Максім Знак, юрыст, паэт, пісьменнік і музыка, піша ў сваім першым інтэрв'ю з-за кратаў, што 9 месяцаў не бачыў цемры. Па магчымасці ён займаецца спортам, піша раман і захоўвае аптымізм.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ



**У нямецкім выдавецтве Suhrkamp <u>выйшла кніга</u> філосафкі і сябры Беларускага ПЭНа Вольгі Шпарагі пра жаночы твар беларускай рэвалюцыі «Die Revolution hat ein weibliches Gesicht. Der Fall Belarus».**

**Выйшла <u>кніга</u> «Блуканец» – ўспаміны Карласа Шэрмана, паэта, перакладчыка і грамадзкага дзеяча, які займаў пасаду віцэ-прэзыдэнта Беларускага ПЭНа з 1989 па 2001. Выданне падрыхтаваў Беларускі ПЭН.**










**Альгерд Бахарэвіч выдаў дзве <u>новыя кнігі</u>: «Тэатр шчаслівых дзяцей» і «Плошча Перамогі».**

**Ва Ушачах, дзякуючы ахвяраванням неабыякавых людзей, былі ўсталяваныя помнікі Васілю Быкаву і Рыгору Барадуліну.**



**Алена Анісім, старшыня Таварыства беларускай мовы, накіравала лісты ва ўстановы МУС, у якіх заявіла пра ўціск зняволеных сяброў арганізацыі ТБМ, якія гавораць па-беларуску.**

**Беларусы Японіі зладзілі акцыю-перформанс супраць гвалту ў самым цэнтры Токіё.**





**Артысты Перамогі: гурт Litesound зайграў у падтрымку сем'яў палітзняволеных у Беларусі.**




**Творчасць з-за кратаў**




**Вольга Якубоўская, «Партызаны»**

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**Ігнат Сідорчык, рэжысёр, актор і паэт, які з 14 чэрвеня адбывае «хімію» ў папраўчай установе адкрытага тыпу № 49 у Шклове.**
***«Ну хто, калі не я?! У іх жа статыстка, калі б не я, то паслалі б нейкага іншага хлопца, які, магчыма, быў бы маральна слабейшы. Я вытрымаю».***





**Валярына Кустава аб сваёй вымушанай эміграцыі:**
***«Аказалася, некалькі крымінальных артыкулаў – не самае горшае, што мяне чакае. У мяне канфіскавалі не проста ўсе рэчы, а маё жыццё на Радзіме. А я ніяк не магу без маёй балючай Беларусі. Ніяк. Адзінае, што яны ніколі не змогуць забраць, не здолеюць скрасці – нашую салідарнасць».***

**Наталля Акініна аб сваім звальненні з тэатра:**
***«Заставацца ў цяперашніх умовах нават дзеля музыкі і спеваў я палічыла немагчымым для сябе. Даказваць гэтым людзям сваю прафесійнасць як чалавека і спявачкі для мяне непрымальна».***





**Віктар Ляхар аб загадзе выняць з бібліятэк ягоныя кнігі:**
***«Когда люди пытаются что-то вырезать, то это не обидно, а как-то, знаете, мерзко, смешно и грустно одновременно».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

Перакладчыцкі праект VERSschmuggel 22-га паэтычнага фестывалю Берліна сёлета быў прысвечаны беларускай сучаснай паэзіі. У межах гэтага праекта 6 беларускіх і 6 нямецкамоўных паэтаў і паэтак перакладалі вершы адны адных. Беларускую паэтычную сцэну прадставілі Юлія Цімафеева, Андрэй Хадановіч, Уладзімір Лянкевіч, Марыя Мартысевіч, Таццяна Скарынкіна і Дзмітрый Строцаў.






Святлана Алексіевіч ўзнагароджана ордэнам «За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германія».

Мікалай Дзядок, блогер, актывіст, аўтар турэмнай прозы, абраны «Выбітным чалавекам года ЕГУ».






Літаратурны Дом у Лодзі зладзіў анлайн-сустрэчу з беларускімі аўтарамі: паэтам, перакладчыкам і выканаўцам песень Андрэем Хадановічам ды пісьменніцай і перакладчыцай Святланай Курс.

Руслан Кулевіч, журналіст, які вымушана пакінуў родны горад, працягвае сваю працу і збірае ўспаміны старажылаў. Ён прэзентаваў дзве свае беларускамоўныя кнігі ў Беластоку.



